№ 90(672)

Субота, 22 мая 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас



Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"



**Взгляд**

## А сказать народу-то и нечего...

Как назвать человека, который единолично решает судьбу страны и буквально каждого гражданина? Который делает все, что пожелает, — награждает и сажает, возносит и бросает оземь? Может, он Бог? Или — скорее — диктатор? Он же постоянно подчеркивает, что является всенародноизбранным, что само по себе действительно так. Но всенародноизбранный почему-то забыл, что должен служить народу, а не наоборот. И почему-то ни разу не отчитался перед теми, кто его избрал. Выходит, народ ему нужен только для выборов и референдумов?

Впрочем, тут его можно понять: ведь сказать народу-то и нечего. "Рыночный социализм" довел до ручки экономику, нищета населения бросается каждому в глаза. По уровню жизни наша страна — на одном из последних мест в СНГ, не говоря уже о цивилизованной Европе. А ведь стартовые условия при выходе из СССР у нас были куда лучше, чем у других былых советских республик.

Как же этим преимуществом распорядилось наше руководство? Просто бездарно. Не пора ли открыто сказать об этом "любимому" народу, а не искать любых возможностей скрыться от ответственности на широких российских просторах? Сколько можно эксплуатировать небывалую белорусскую "памяркоўнасць", терпение людей, вся жизнь которых прошла в беспрерывных испытаниях, тяжелом труде и бедности?

Но сейчас, слава Богу, белорус начинает понемногу прозревать, разбираться, что к чему. И постепенно терять веру в то, что "народный спаситель и заступник" — такой уж спаситель и заступник.

Выход один: пойти на выборы нового президента, как того и требует наша Конституция. Конечно, "всенародноизбранный" может всё сорвать. Но что тогда станет со страной? Она еще стремительнее покатится в пропасть. Это и будет явным показателем, насколько она ему "дорога".

Но ведь мы же, дорогие мои сограждане, не равнодушны к своей собственной судьбе и судьбе своих детей и внуков? Тогда давайте выбирать. Но только — с головой...

**К.ПЛИГАВКА,**
**ветеран Великой Отечественной войны, заслуженный работник культуры Беларуси.**
г.Докшицы.

## Цуд-падушка для хворых

Швейны цэх пастаўскага СП "Імпульс" выпусціў першую пробную партыю новага віду вырабаў — падушак і наматрацнікаў, запоўненых грэчневым шалупіннем. Падобныя вырабы не толькі даўгавечныя, але і вельмі карысныя хворым людзям. Асабліва тым, хто доўгі час ляжыць у ложку, лечыцца ад пераломаў і іншых цяжкіх траўм, а таксама пакутуе ад алергічных захворванняў. Натуральны матэрыял становіцца надзейным шчытом, на думку медыкаў, для хворага чалавека і абараняе яго ад непажаданых кантактаў з шкоднымі мікраэлементамі, бактэрыямі. Менеджэры фірмы спадзяюцца, што навінка зацікавіць медустановы і асобных грамадзян, якія могуць набыць падушкі коштам 600 тысяч рублёў, а наматрацнікі — ад 4 мільёнаў за штуку.

**Уладзімір ШЫК.**

**Крыўдна!**

## За мае грошы мяне яшчэ і абразілі...

Дарагая рэдакцыя!

Хачу расказаць, як нас абслугоўваюць. Нядаўна мне давялося звярнуцца да ўрача ў раённую паліклініку. Ездзіла ў райцэнтр маршрутным аўтобусам Шчучын—Даліняны. Каб вярнуцца дамоў, трэба было ўзяць білет у касе аўтавакзала. Раптам убачыла, што купляе білет знаёмая жанчына, я дала ёй грошы, каб яна і мне ўзяла. Яна падала грошы ў акенца і сказала: "Адзін білет да вёскі Шайбакі, пенсійны". Я дастала з сумкі пенсійнае пасведчанне, але касірка не стала глядзець пасведчанне, а дала мне білет за поўны кошт. Пры тым стала мяне абражаць разнымі словамі і не дала мне рэшту з поўнага кошту білета, хоць пенсіянеры плацяць 50 працэнтаў кошту.

Я проста разгубілася і нічога не магла адказаць гэтай касірцы. Нават забылася паглядзець на шыльду, дзе ёсць яе прозвішча. А на вуліцы да мяне падышла адна жанчына і кажа: "Гэтая касірка і мяне таксама аблаяла. Замест білета да вёскі Баяры (ёсць там прыпынак) яна дала білет да вёскі Галавічполе, на тры тысячы даражэйшы. Хіба такія людзі павінны працаваць там, дзе трэба абслугоўваць людзей?"

Вось і ў мяне ўзнікла такое пытанне.

**Вольга Сямёнаўна ПАНІМАШ, пенсіянерка, жыхарка вёскі Шайбакі Шчучынскага раёна.**

# ЗВАРОТ

## Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта "Беларусь — 2000 гадоў"

### да беларускай грамадскасці

Суайчыннікі! Браты і Сёстры!

Мы з вамі жывем на мяжы тысячагоддзяў. Хутка на нашу зямлю прыйдзе 2000 год, які завершыць другое тысячагоддзе і адкрые шлях у новую гістарычную эпоху. Прыпынімся на гэтым гістарычным скрыжаванні, адарвемся ад будзённых спраў, адчуем, што мы Народ Беларусі — маем з чым ісці ў будучыню.

Заглянем у глыбіню вякоў, ушануем наша гераічнае і трагічнае мінулае, лепшых сыноў і дачок Бацькаўшчыны, выдатныя падзеі нашай гісторыі, каб памяць пра іх паўсюдна нагадвала сённяшнім грамадзянам Беларусі, што жывуць яны ў старажытнай краіне. На высокіх прыкладах і запаветах нашых продкаў будзем выхоўваць нацыянальную годнасць, пачуццё любові да Радзімы.

Нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт выступае з ініцыятываю адзначыць завяршэнне другога тысячагоддзя ў нацыянальным маштабе.

Камітэт падрыхтаваў **"Слова да народа Беларусі. Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці".** У ім зроблены праўдзівы агляд нашай гісторыі, выказаны думкі пра месца беларусаў сярод народаў свету.

Камітэт распрацаваў і прапануе для ажыццяўлення **Праграму "Беларусь — 2000 гадоў".** Асноўны змест дакумента скіраваны на тое, каб ушанаваць нашы здабыткі на гістарычным шляху. Неабходна зрабіць так, каб наша краіна мела сапраўднае аблічча старажытнай дзяржавы з багатай гістарычнай спадчынай. Пра гэта павінны сведчыць кнігі, помнікі, мемарыяльныя дошкі, памятныя знакі, фільмы і ўсе іншыя сродкі патрыятычнага выхавання. Праграма разлічана на перспектыву, але пачнем яе выконваць ужо сёння.

Кожны грамадзянін Беларусі і беларусы замежжа могуць знайсці ў Праграме сваё месца, абраць сабе справу па душы. Настаўнікі, краязнаўцы, гісторыкі, журналісты, рыхтуйце артыкулы на гістарычныя тэмы, даследуйце гісторыю роднага краю, арганізоўвайце цыклы лекцый, школьныя ўрокі, турыстычныя паездкі па гістарычных мясцінах Беларусі! Дзеячы культуры, сілаю свайго таленту праз мастацкія творы спрыяйце абуджэнню нацыянальнай годнасці, выхоўвайце павагу да гістарычнага мінулага!

Заклікаем грамадскасць Беларусі, дзяржаўныя структуры, кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый далучыцца да нашай ініцыятывы. Кожная вобласць, раён, горад могуць стварыць свае грамадскія арганізацыйныя камітэты, устанавіць кантакты з нашым Камітэтам і на сваёй радзіме ўспомніць выдатныя падзеі і славутых людзей (адрас для кантактаў: **220050 г.Мінск, вул.Рэвалюцыйная 15, тэл./факс 276-91-94).**

Беларусь павінна выглядаць не толькі старажытнаю, але і цывілізаванаю сучаснаю еўрапейскаю дзяржаваю. Будзем памятаць пра свой абавязак упарадкоўваць, падтрымліваць у належным стане жыццёвае асяроддзе, абараняць родную прыроду, нашы цудоўныя лясы, рэкі, азёры. Экалагічная сітуацыя ў Беларусі патрабуе ўвагі грамадства, будзем клапаціцца пра захаванне чысціні навакольнага асяроддзя як найпершай умовы годнага жыцця.

**Сумеснымі намаганнямі ўсёй беларускай грамады мы зможам аднавіць нашу гістарычную памяць як падмурак лепшага жыцця ў будучыні.**

**Яднаймася, каб захаваць нашу беларускую нацыю і дзяржаву ў новым тысячагоддзі!**

Сустаршыні Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта:

ГАРЭЦКІ Радзім — акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Расійскай акадэміі навук, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына";
ПЕТРАШКЕВІЧ Алесь — драматург, кандыдат гістарычных навук,

Адказны сакратар:

СУРМАЧ Ганна — старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Сябры Камітэта:

АДАМОВІЧ Яўген — кандыдат філалагічных навук, прафесар;
Беларускага універсітэта культуры;
АКАЛОВІЧ Леанід — старшы выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка;
АКСАК Валянціна — журналістка;
АНТОНАВА Таццяна — журналістка;
АРЛОЎ Уладзімір — пісьменнік;
БЕЛЫ Анатоль — старшыня клуба "Спадчына";
БРЫЛЬ Янка — народны пісьменнік Беларусі;
БУРАЎКІН Генадзь — паэт;
БЫКАЎ Васіль — народны пісьменнік Беларусі;
ВЯРЦІНСКІ Анатоль — паэт, публіцыст;
ГІЛЕВІЧ Ніл — народны паэт Беларусі, прафесар
ГІЛЕП Уладзімір — старшыня Беларускага фонду культуры;
ГРЫЦКЕВІЧ Анатоль — доктар гістарычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі Еўразіі;
ДАБРАВОЛЬСКІ Аляксандр — намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі;
ДЗЯГІЛЕВА Галіна — мастацкі кіраўнік тэатра "Зьніч";
ДЗЯГІЛЕЎ Леанід — загадчык кафедры Акадэміі мастацтваў Беларусі;
ЕРМАЛОВІЧ Мікола — гісторык;
ЗЕЛЬСКІ Артур — загадчык музея Беларускага дзяржаўнага універсітэта;
ІПАТАВА Вольга — пісьменніца, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, акадэмік Міжнароднай акадэміі Еўразіі;
КАЖЭРА Ала — старшыня настаўніцкага камітэта "Думка" пры ТБМ імя Ф.Скарыны;
КАРОЛЬ Аляксей — кандыдат гістарычных навук, намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), галоўны рэдактар газеты "Згода";
КОНАН Уладзімір — доктар філасофскіх навук, загадчык аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны;
КУПАВА Мікола — мастак, сябра суполкі "Пагоня";
ЛІС Арсень — доктар філалагічных навук;
ЛОЙКА Леанід — гісторык;
ЛЫЧ Леанід — доктар гістарычных навук, прафесар, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі;
ЛЮЦКО Мікола — віцэ-прэзідэнт Беларуска-Расійска-Японскага фонду імя Гашкевіча;
МАЙСЕНЯ Людміла — кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт Белдзяржуніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі;
МАКОЎСКАЯ Алена — юрыст, сябра Рады Міжнароднага дабрачыннага фонду Жыватворнага Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай;
МАЛЬДЗІС Адам — прафесар, акадэмік Міжнароднай акадэміі Еўразіі;
МАРАЧКІН Аляксей — мастак, дацэнт кафедры Акадэміі мастацтваў Беларусі, старшыня суполкі "Пагоня";
МАРХЕЛЬ Таццяна — заслужаная артыстка Беларусі;
МАРХЕЛЬ Уладзімір — кандыдат філалагічных навук;
МАЦКЕВІЧ Вацлаў — журналіст;
МІЦКЕВІЧ Марыя — старшыня Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік";
ПАНІЗЬНІК Сяргей — пісьменнік, сябра Міжнароднага фонду імя Я.Купалы;
ПАПКОЎ Сяргей — намеснік старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне";
ПЕЦІНА Людміла — старшыня Беларускага жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху, дырэктар Жаночага адукацыйнага цэнтра;
САБАЛЕЎСКІ Анатоль — доктар мастацтвазнаўства, прафесар;
САВЕРЧАНКА Іван — кандыдат філалагічных навук, літаратуразнавец;
САВІК Лідзія — кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры;
САНЬКО Валерый — пісьменнік, дырэктар Выдавецтва "Хата", намеснік старшыні Рады БСГ;
САХУТА Яўген — доктар мастацтвазнаўства;
СІЛІВОНЧЫК Анатоль — прэзідэнт Міжнароднага дабрачыннага фонду Жыватворнага Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай;
СКАРАБАГАТАЎ Віталь — кандыдат гістарычных навук;
СКАРАБАГАТАЎ Віктар — дацэнт Беларускай акадэміі музыкі, ганаровы акадэмік Міжнароднай акадэміі Еўразіі, заслужаны артыст Беларусі;
СТАТКЕВІЧ Алесь — старшыня патрыятычнага руху "Беларускае згуртаванне вайскоўцаў";
СТАТКЕВІЧ Мікола — старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада);
СТУК Барыс — старшыня Рады Міжнароднага дабрачыннага фонду Жыватворнага Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай;
СТЭЛЬМАШОНАК Уладзімір — народны мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі;
СЯРГЕЕВА Галіна — кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі;
СЯРЭДЗІЧ Іосіф — галоўны рэдактар газеты "Народная воля";
ТРУСАЎ Алег — кандыдат гістарычных навук, дацэнт Беларускага універсітэта культуры, старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны, намеснік старшыні БСДГ;
ТРЫГУБОВІЧ Валянціна — сустаршыня Грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра "Беларуская перспектыва";
ЦВІРКА Кастусь — пісьменнік, кандыдат гістарычных навук, прэзідэнт Міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор";
ШАБЛОЎСКАЯ Ірына — доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры Белдзяржуніверсітэта;
ШТЫХАЎ Георгій — доктар гістарычных навук, загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі;
ЮХО Язэп — доктар юрыдычных навук, прафесар Белдзяржуніверсітэта.

**Ад рэдакцыі.** *З наступнага нумара "Народная воля" пачынае друкаваць "Слова да беларускага народа" Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта "Беларусь — 2000 гадоў". У ім — аповед пра гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці. Пазнаёмім чытачоў і з праектам праграмы "Беларусь — 2000 гадоў", яе асноўнымі мерапрыемствамі, якія Нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт плануе правесці да 2000 года.*

**Надвор'е**

22 і 23 мая на тэрыторыі краіны захаваецца пераменная воблачнасць. 22-га без ападкаў. 23-га ўначы па захадзе, удзень месцамі па краіне кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёвай чвэрці, 6—11, пры навальніцах парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра 22-га ўначы +4...+9, удзень +19...+24; 23-га ўначы +7...+12, удзень +21...+26, па захадзе +16...+21.

**Анонс**

## Почему Лукашенко хочет объединиться с Россией?

Ответ на этот вопрос дается в публикации "Ельцин может остаться в Кремле и после 2000 года", которую мы помещаем на 3-й странице.

**Отстоим!**

## Выразим поддержку Михаилу Чигирю в день его рождения



Как сообщалось в предыдущем номере, 24 мая, в понедельник, демократическая общественность столицы проводит шествие и митинг в защиту общечеловеческих прав белорусских граждан. Разрешение властей на проведение данной политической акции имеется.

Напоминаем: сбор участников мероприятия на площади Якуба Коласа в 16.30. Затем, в 17 часов, начнется шествие по проспекту Скорины до цирка. А с 18 до 19 часов в сквере Янки Купалы, у памятника поэту, пройдет митинг, на котором властям будет заявлено требование освободить из-под стражи претендента на президентский пост Михаила Чигиря, а также других наших соотечественников, томящихся за решеткой.

Политическая акция 24 мая 1999 года приурочена ко дню рождения узника Михаила Чигиря, которому в понедельник исполняется 51 год.

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**

## Заключение

### О легитимности президента Республики Беларусь А.Лукашенко после 20 июля 1999 года

**1.** Конституция Республики Беларусь 1994 года (статья 97) устанавливает срок полномочий президента Республики Беларусь в 5 лет с момента вступления в должность. По смыслу Конституции этот срок не может быть продлен ни при каких обстоятельствах. Президент А.Лукашенко принес присягу на верность Конституции и вступил в должность 20 июля 1994 года. Значит, срок его законных полномочий истекает 20 июля 1999 года.

**2.** Новая редакция Конституции введена в действие вопреки конституционным нормам в ноябре 1996 года. Она предусматривает продление срока полномочий президента Республики Беларусь на два года. Однако этот вопрос не выносился в качестве самостоятельного на референдум и не обсуждался Верховным Советом, что лишает указанные поправки всякой юридической силы.

**3.** Несмотря на то, что новая редакция Конституции не может признаваться в качестве законной основы белорусского государства, ее фактическое применение органами государственной власти не опровергает первоначальных сроков президентских полномочий. Граждане Беларуси не утратили права избирать президента страны через каждые пять лет.

**4.** В настоящее время президент А.Лукашенко узурпировал всю власть в Республике Беларусь. Тем не менее, единственным органом государственной власти, который вправе назначить президентские выборы, остается Верховный Совет Республики Беларусь. Находясь в условиях политического гонения, он выполнил свой конституционный долг и назначил выборы президента Республики Беларусь на 16 мая 1999 года.

**5.** Если очередные выборы президента не будут проведены в установленные Конституцией 1994 года сроки, то А.Лукашенко с 20 июля 1999 года утрачивает легитимность как глава государства и исполнительной власти, а полномочия президента временно переходят к председателю Верховного Совета Республики Беларусь, который обязан назначить выборы президента не позже чем через 70 дней со дня замещения должности.

**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор, судья Конституционного суда Республики Беларусь;**
**д-р Штеван ЛИЛИЧ, профессор права, Белградский университет;**
**Димитрис ТСАСОС, профессор права (Афины, Греция);**
**Биляна КОВАЦЕВИЧ-ВУКО, президент Комитета юристов в защиту прав человека (Белград, Югославия);**
**Эрнесто КАРВАКАЛЕ (Венеция, Италия);**
**Стефан ХАКЕНБЕРГЕР (Германия);**
**Азелио ФУЛМИНИ (Рим, Италия).**

## Пачаўся суд над намеснікам старшыні "Маладога фронту" Яўгенам Скочкам

20 мая ў гарадскім судзе Мінска пачаўся разгляд крымінальнай справы намесніка старшыні маладзёжнай арганізацыі "Малады фронт" Яўгена Скочкі. Як ужо паведамляў БелаПАН, за правядзенне 14 лютага г.г. — у дзень Святога Валянціна — несанкцыянаванага шэсця ў Мінску ён абвінавачваецца па артыкуле 186-3 (арганізацыя або актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія парушаюць грамадскі парадак). Гэты артыкул прадугледжвае пакаранне ў выглядзе 3 гадоў пазбаўлення волі, 2 гады папраўчых работ або штраф. За гэтую акцыю Я.Скочка ўжо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці (10-сутачнага арышту), аднак пасля адбыцця пакарання ў дачыненні да яго і яшчэ некалькіх удзельнікаў шэсця пракуратура горада ўзбудзіла крымінальную справу.

Яе расследаваў следчы па асабліва важных справах Валянцін Магарыл. Трэба адзначыць, што ў дачыненні да ўсіх абвінавачваемых, за выключэннем Я.Скочкі, справа неўзабаве была спынена. Сам Скочка сваёй віны не прызнае, лічачы, што ўлады квітаюцца з ім за актыўную апазіцыйную дзейнасць, арганізацыю дзесяткаў разнастайных акцый і ўдзел у іх. Абараняе "маладафронтаўца" адвакат Сяргей Лепеш. У якасці грамадскіх абаронцаў у працэсе збіраюцца ўдзельнічаць былы дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, актывіст БНФ Барыс Гюнтэр і вядомы адвакат, намеснік старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта Гары Паганяйла.

На пасяджэнні суда прысутнічалі кіраўнікі БНФ Лявон Баршчэўскі і Юрый Беленькі, актывісты "Маладога фронту", назіральнікі АБСЕ і журналісты. Слуханне справы, якое вёў суддзя Валерый Камісараў, аказалася кароткім. Перапісаўшы дадзеныя абвінавачваемага і пацікавіўшыся, ці ведае ён рускую мову, на што Скочка адказаў адмоўна, працягваючы адказваць на пытанні па-беларуску, суддзя перанёс пасяджэнне на панядзелак, 24 мая. Гэтае рашэнне ён аргументаваў нормай закону, згодна з якой суд пачынаецца не раней чым праз трое сутак пасля ўручэння абвінавачваемаму абвінавачвальнага заключэння, якое Я.Скочка атрымаў 18 мая.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

**Шчыра**

## Настане час, калі я буду ганарыцца сваёй краінай

Добры дзень, "Народная воля"!

Піша табе вучаніца 11-га класа Мазоўха Таня. Ты — самая любімая мая газета. Бо — самая лепшая і праўдзівая. Чытаю цябе заўжды з вялікім задавальненнем. Чытаю — і спачуваю нашаму народу, якому цяпер так цяжка жыць.

Мае бацькі ўдваіх, разам, зарабляюць усяго каля 30 долараў у месяц. Якое ж з таго жыццё і як жыць далей? Вядома, трэба не маўчаць і выказваць свой пратэст. Ці ж можна маўчаць, калі сённяшнія ўлады давялі краіну да бяды, а крытыкі ў свой адрас не цярпяць?

Я веру, веру: настане час, калі я буду ганарыцца сваёй краінай і радавацца, што кіраўнікі дзяржавы любяць яе і даражаць ёю.

**Таццяна МАЗОЎХА, школьніца.**
г.Праўдзінскі
Пухавіцкага раёна.

**Газета — чытач**

## Прабачце!

Рэдакцыя "Народнай волі" даражыць кожным сантыметрам газетнай плошчы. Але здараюцца і недарэчнасці: у нумары за 19 мая паўторна надрукавана падборка нашага шаноўнага аўтара Міхася Тычыны. Адбылося гэта з-за тэхнічнага збою. Не хочацца, каб чытачы звязвалі гэта з дэфіцытам матэрыялаў. Наадварот, адзіная рэспубліканская незалежная газета перагружана і іншы раз не мае магчымасці ахапіць увесь тэматычны спектр.

А за тое, што на старонках газеты прайшла адна і тая ж публікацыя, прыносім Вам, паважаныя чытачы, шчырае прабачэнне.

**Рэдакцыя газеты "Народная воля".**

Пр. Ісая, Мікалая.
К. Галены, Рыты, Юліі.

МАЙ
22
'99 СУБОТА

☉ Усход 4.56
Захад 21.18
Даўж. дня 16.22

☽ Перш. квадра 8.34
Захад 3.27
Усход 13.38



**Чулі?**

## Пацярпеў не толькі Лукашэнка, але і Ленін

Раніцай 19 мая жыхары райцэнтра Лёзна ўбачылі на сценах грамадскіх будынкаў розныя антыпрэзідэнцкія надпісы. Пацярпеў таксама помнік У.Леніну на цэнтральнай плошчы. Ён ад фарбы стаў падобны на Фантамаса.

Між іншым, людзі да гэтых падзей паставіліся спакойна. Улады вырашылі ўсё замаўчаць. Па іх загадзе ўвесь дзень старанна выціралі надпісы ды мылі помнік. А ў райаддзеле міліцыі аніякіх надзвычайных здарэнняў не зарэгістравана, там робяць выгляд, што нічога не ведаюць.

Дарэчы, летась Лёзна ўжо перажывала падобны напад. Тады падпалілі танк "Т-34", запэцкалі Леніна і пакінулі адпаведныя надпісы. Пад усім гэтым падпісваўся нейкі "Рубон". Сведкі запэўніваюць, што такі ж подпіс быў і на гэты раз.

**Юрась КАРПАЎ.**

Письмо афганца

## По нулевому кругу

Я служил в Афганистане и лишился здоровья не по своей воле. Горевать теперь придется до последних дней и помощи от государства, о которой только говорят, я не дождусь. Своего угла не имею. Прописан в доме отца, который завещан старшему брату. Метров в доме хватает, а вот удобств никаких. Надо носить воду, топить печку, дрова и торф — проблема, потому что "съедают" половину зарплаты. 10 лет проработал на заводе "Химволокно", стоял на льготной очереди, обещали выделить нам с женой малосемейную квартиру, но после того как разрешили в таких домах приватизировать жилье, надежда получить что-либо пропала. Хотели стать на льготную очередь в исполкоме, но там говорят: "В вашем доме метры есть, живите, а не желаете, стройтесь за свои средства, берите ссуду". Чем же эту ссуду отдавать (да еще проценты), если заработок нищенский?

Поехал я в Минск, думал, подскажут что или помогут. В Администрации президента сказали: "Пиши заявление". Написал. А они отослали его в Гомель. Гомель ответил Минску, что метры у моего отца есть... круг замкнулся. И я понял, что слова о помощи воинам-интернационалистам просто пустые. Отец с матерью дом строили, все жилы вытянули. Когда меня в Афганистан послали, а старшего брата в Германию, мать заболела. Афганистан ее добил. Теперь осталось ему и со мной покончить. Тогда все проблемы — жилищные и житейские — снимутся сами собой. Государству проще, не надо пускать заявление в чем-либо нуждающихся по нулевому чиновничьему кругу.

**Виктор ДОВЫДЕНКО.**
г.Светлогорск.

Стоп-кадр



Члены Минского центра последователей Кришны во время исполнения обрядов служения своему богу.

**Фото IREX/ProMedia.**

Из первых уст

## Виктор ГОНЧАР: "Дважды проводить такие выборы лично я не буду"

**— Виктор Иосифович, что произойдет в Беларуси после 20 июля?**

— Это зависит от усилий белорусской оппозиции. Выборы 16 мая — это лишь первый этап кампании, конечный итог которой должен быть привязан к 20 июля. Все, что связано с последующими действиями оппозиции, будет сформировано в виде жесткого политического плана, с сильными политическими ходами, которые завершатся восстановлением конституционности в нашем государстве.

**— Каким образом?**

— Вы же знаете: 21 июля исполнение обязанностей главы государства по закону должно перейти к председателю Верховного Совета 13-го созыва Семену Шарецкому. И наша задача состоит в том, чтобы все конституционные структуры власти действовали строго в соответствии с законом. Хотя смена правящего режима — не самоцель. Нужно, чтобы население страны поверило, что будут изменения к лучшему.

**— Майские выборы показали некий разлом в оппозиции, я имею в виду заявление Позьняка о снятии своей кандидатуры...**

— Это разве открытие, что есть разлом в среде белорусской оппозиции?.. В последнее время он лишь более четко оформился. И одним из позитивных итогов этой кампании является четкое представление о том, кого не надо брать даже в попутчики. Мы не будем связываться с имитаторами и демагогами. Что касается позитивных сторон, то мы сейчас знаем о реальном потенциале, причем не на уровне оппозиции, претендующей на звание элиты, а на уровне реальных людей в регионах, которые могут что-то реально сделать. Я уже не говорю, что эта кампания впервые позволила создать уникальную всереспубликанскую структуру, которая управляема, даже когда лидер этой структуры делает алогичные и неадекватные заявления.



*Виктор Гончар и Борис Гюнтер во время встречи с журналистами.*

**— И все же проведена необычная кампания. Каков реальный процент погрешностей результатов выборов?**

— Реальный процент погрешностей соответствует реальному проценту провокаций, который был заложен КГБ. Главная задача была поставлена на последнем этапе — дезорганизовать кампанию изнутри. Естественно, я не исключаю реальный процент погрешностей, который заложен провокациями наиболее ярых приверженцев Зенона Станиславовича.

**— Не толкаете ли Вы страну в беспрерывную цепь выборов?**

— Дважды проводить такие выборы лично я не буду. 21 июля по закону реальная власть должна перейти к Верховному Совету 13-го созыва, и республика проведет нормальные демократические выборы.

**— Смогут ли в них принять участие Михаил Чигирь и Зенон Позьняк?**

— Да, но повторные выборы подразумевают и повторное выдвижение кандидатов с соблюдением всех процедур.

**— А как Ваше собственное уголовное дело? Идут ли допросы?**

— Оно меня вообще не интересует, поскольку я живу в реальном мире. Естественно, я никогда не буду участвовать в придуманных виртуальных уголовно-следственных мероприятиях. Есть обвиняемый, который не участвует в процессуальных действиях, а вот всех 2300 членов комиссии пригласили в качестве свидетелей по моему уголовному делу. Кто-то придумал подписку о невыезде, которая подразумевает, что я должен ее завизировать. Но этого не было. В то же время я езжу куда хочу. Существуют и реальные вещи — когда мне не возвращают автомобиль, а на вопрос, где моя собственность, отвечают: "А мы вам потом объясним..."

**Беседовала Анна СОУСЬ.**

## Спынена крымінальная справа па факце нападу членаў Рускага нацыянальнага адзінства на трох актывістаў Хартыі'97

Як стала вядома БелаПАН, Партызанскае РУУС Мінска спыніла крымінальную справу па факце нападу групы членаў Рускага нацыянальнага адзінства (РНА) на актывістаў "Хартыі'97" Андрэя Саннікава, Дзмітрыя Бандарэнку і Алега Бябеніна. Пра гэта ім было паведамлена ў лісце, падпісаным начальнікам следчага аддзела РУУС Васілём Насановічам, які і праводзіў расследаванне.

Нагадаем, што вечарам 5 лютага ў цэнтры Мінска на трох актывістаў Хартыі'97 быў ажыццёўлены напад групы (прыкладна 15 чалавек) членаў РНА, якія раздавалі прахожым літаратуру сваёй арганізацыі. У выніку інцыдэнту найбольш пацярпеў каардынатар Хартыі па міжнародных справах Андрэй Саннікаў, якому было нанесена шмат сур'ёзных цялесных пашкоджанняў.

Гэтае здарэнне выклікала вялікі грамадскі рэзананс. Прэзідэнт А.Лукашэнка ў адным са сваіх публічных выступленняў паабяцаў "вырваць ногі і адкруціць галовы фашыстам усіх масцей", якія дзейнічаюць на тэрыторыі рэспублікі. Па факце злоснага хуліганства (артыкул 201 частка 2 Крымінальнага кодэкса) Партызанскае РУУС узбудзіла крымінальную справу. Паводле сцвярджэнняў пацярпеўшых актывістаў Хартыі, былі выяўлены некаторыя з членаў РНА, якія бралі ўдзел у нападзе. Аднак ужо падчас папярэдняга следства стала відавочнай тэндэнцыя, калі віну за інцыдэнт міліцыя спрабавала таксама знайсці ў дзеяннях актывістаў Хартыі, якія быццам бы справакавалі канфлікт, калі зрабілі заўвагу членам РНА. Больш таго, следства разглядала магчымасць прад'яўлення абвінавачання аднаму з актывістаў Хартыі ў нанясенні наўмысных цялесных пашкоджанняў таму, хто здзейсніў напад. У выніку разбіральніцтва крымінальная справа была закрыта. У згаданым лісце з РУУС адзначаецца: паколькі ў дзеяннях удзельнікаў ёсць састаў злачынства, прадугледжаны артыкулам 110 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь — "наўмысныя лёгкія цялесныя пашкоджанні альбо пабоі", пацярпеўшы бок мае права абскардзіць дадзенае рашэнне.

У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН Андрэй Саннікаў адзначыў, што ён не здзіўлены спыненнем крымінальнай справы. "Адбылося тое, што павінна было адбыцца", — сказаў ён. Сэнсу абскардзіць гэтае рашэнне ў цяперашніх умовах ён не бачыць. Сёння, на думку А.Саннікава, беларускія ўлады "дэманстратыўна даюць зразумець фашыствуючым і рэакцыйным сілам", што пакарання за іх беззаконныя дзеянні няма.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

## Расце схаванае беспрацоўе

Афіцыйна зарэгістраваныя ў дзяржаўных службах занятасці ў якасці беспрацоўных 103,1 тысячы чалавек, або 2,2 працэнта ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва. Аднак, як лічаць эксперты праекта Belarus Economic Trends, які фінансуецца TACIC — праграмай Еўрасаюза для краін СНД, для Беларусі сур'ёзнай праблемай з'яўляецца скрытае беспрацоўе. Яны азначаюць адсутнасць гібкасці на беларускім рынку працы і нежаданне людзей рэгістравацца ў якасці беспрацоўных з-за нізкага памеру дапамогі па беспрацоўі і высокага ўзроўню патрабаванняў. Так, дапамога па беспрацоўі ў красавіку была налічана толькі 44 тысячам беспрацоўных. Сярэдні памер яго склаў 680,9 тысячы рублёў (каля 2,8 долара ЗША па афіцыйным курсе, альбо прыкладна 1,7 долара па курсе "чорнага рынку").

**Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.**

Трывожна

## Монстр

Расійскае тэлебачанне паказвала дакументальную стужку "Монстр — партрэт Сталіна". Кажуць у народзе: калі чалавек альбо дзяржава жыве не па законах Божых, то Гасподзь насылае на чалавека ці на народ кару. Здаецца, што гэтую кару — Сталіна — Бог паслаў невыпадкова. У прыродзе нічога невыпадковага не бывае.

Калі ўспомніць гісторыю расійскай імперыі, монстр, падобны Сталіну, быў не першым і не апошнім. Былі цары Іван Жахлівы і Пётр І, якія неслі многім народам гора, рабавалі іх, захапляючы чужыя землі. Вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—1667 гг. развязаў цар Аляксей Міхайлавіч, а патрыярх Нікан благаславіў яго на гэтую справу. Імператрыца Кацярына II заваявала Беларусь, якая затым сталася Паўночна-заходнім краем Расіі.

А калі вярнуцца да дзевяностых гадоў нашага стагоддзя і ўспомніць віленскія падзеі ў Літве, тбіліскія ў Грузіі, раскол Малдавіі і г.д.? Усё гэта — мы ведаем цяпер — у пэўнай меры інспіравалася Масквой. А той крывавы хаос, у які яна ўвяла Чэчню? І сённяшні крызіс у Расіі — гэта водгулле мінулага ў сучасным. Вельмі балюча, што гэты крызіс адбіваецца перш за ўсё на простым народзе. Пакуль Масква не адмовіцца ад сваіх імперскіх амбіцый, дагэтуль яе будуць суправаджаць хаос і катаклізмы. І будуць з'яўляцца ўсё новыя монстры.

Хачу вярнуцца да кінастужкі. Там былі вось такія выказванні: маўляў, другую сусветную вайну выйграў рускі салдат, гэта на яго плячах вынесены ўвесь цяжар вайны... Прабачце, паважаныя: а дзе ж былі беларусы, украінцы, эстонцы, латышы, літоўцы і другія нацыянальнасці? Савецкая Армія была шматнацыянальная. А сёння гучыць, быццам вайну выйгралі адныя рускія. Альбо вось такое меркаванне: "Россия освобождала польские земли, ранее принадлежавшие России". (Маецца на ўвазе Заходняя Беларусь.) Расія заўсёды любіла далучаць да сваіх, дзяліць і раздаваць чужыя землі. Ці не аб гэтым гаворыць намер кіраўнікоў Расіі і Беларусі ў хуткасным тэмпе аб'яднаць дзве дзяржавы?

Няўжо мы пагадзімся з тым, што знікне наша краіна?

**Пятрусь ЖУКОЎСКІ.**
г.Слонім.

## Зарплаты ледзь хапае нават на танныя прадукты

Прадстаўнікі Беларускага прафсаюза працаўнікоў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання правялі анкетнае апытанне членаў свайго прафсаюза. На 16 вядучых прадпрыемствах галіны, размешчаных у розных рэгіёнах краіны, былі апытаны кіраўнікі, інжынерна-тэхнічныя работнікі і рабочыя.

На пытанне "Ці згодныя Вы, што прафсаюзы павінны весці актыўную барацьбу за павышэнне жыццёвага ўзроўню?" пераважная большасць — 94 працэнты рэспандэнтаў — адказалі сцвярджальна. Супраць гэтай прапановы выказаліся толькі 2 працэнты апытаных. Астатнія не змаглі адказаць.

На пытанне "Як выкарыстоўваецца зарплата Вашай сям'і?" больш за палову апытаных (65 працэнтаў) адказалі: "Хапае толькі на харчаванне". Кожнаму чацвёртаму рэспандэнту (27 працэнтаў) "не хапае сродкаў нават на самыя танныя прадукты харчавання". 7 працэнтаў "забяспечаны нармальна, але грашовых зберажэнняў не маюць". І толькі 1 працэнт апытаных указаў, што іх сем'і ў гэты час матэрыяльных цяжкасцяў не адчуваюць.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

## У красавіку зафіксаваны спад выпуску прадукцыі і рост запасаў нерэалізаваных вырабаў

У красавіку гэтага года ў параўнанні з сакавіком назіраўся спад вытворчасці на 6,8 працэнта. Асабліва значным ён быў у электраэнергетыцы (26,5 працэнта), чорнай металургіі (17,6), машынабудаванні, металаапрацоўцы, лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці (8,2 працэнта). У той жа час запасы гатовай прадукцыі на складах прадпрыемстваў у красавіку 1999 года павялічыліся і дасягнулі на пачатак мая 53,1 працэнта ад сярэднямесячнага аб'ёму прадукцыі. Рэнтабельнасць у прамысловасці ў першым квартале склала 18,6 працэнта. 13,6 працэнта прадпрыемстваў галіны былі стратнымі, сума ўрону па іх — 4,2 трыльёна рублёў. Дэбіторская запазычанасць па стану на 1 красавіка 1999 года склала 262,5 трыльёна рублёў, крэдыторская — 412,4 трыльёна.

**Сяргей СНЕГІН.**

## Ў Брэсце павысіліся цэны на праезд у гарадскім транспарце. Чарговае падаражанне чакаецца ў ліпені

З 20 мая ў Брэсце павысілася аплата за праезд у гарадскім транспарце. Да сённяшняга дня адна паездка ў аўтобусе ці тралейбусе каштавала 4.000 рублёў. Цяпер кошт адной паездкі ў аўтобусе—тралейбусе складае 6.000 рублёў, у вадзіцеляў талоны прадаюцца па 7.000.

З 1 ліпеня ўводзіцца абавязковае страхаванне аўтобусаў, таму расходы транспартнікаў на гарадскія перавозкі стануць яшчэ большыя. Адпаведна падаражаюць і талоны на праезд.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

Стоп-кадр

Пожилая женщина вытирает глаза на фоне стеклянных дверей с надписью "Обмен валюты".

**Фото IREX/ProMedia.**

## ЛДП заклікае апазіцыю і афіцыйныя ўлады Беларусі ў бліжэйшы час сесці за стол перамоў

Ліберальна-дэмакратычная партыя краіны (ЛДП) прыняла заяву па выніках правядзення 16 мая г.г. кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі, прызначаных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання, у якой заклікае прадстаўнікоў улады і апазіцыі сесці за стол перамоў. Як вядома, 19 мая Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь афіцыйна аб'явіла вынікі галасавання, якое ішло на працягу 10 дзён. Аб'явіўшы выбары ў цэлым адбыўшыміся, Цэнтральная камісія не прызнала вынікаў галасавання за кандыдатаў у прэзідэнты.

У заяве ліберал-дэмакратаў адзначаецца, што ЛДП не лічыць вінаватым у падобных выніках прэзідэнцкай кампаніі ніводнага з кандыдатаў. У той жа час ліберал-дэмакраты лічаць недапушчальным, каб "прыстойныя палітыкі, якія праслаўляюць дэмакратычныя каштоўнасці", так "нахабна хлусілі людзям, якія, нягледзячы на праследаванні і пагрозу быць арыштаванымі, сабіралі подпісы, праводзілі агітацыю, арганізоўвалі выбарчыя ўчасткі". ЛДП заклікае ўсе дэмакратычныя сілы краіны "супакоіцца і не паддавацца на правакацыю". На думку кіраўніцтва партыі, пасля 20 ліпеня (дата спынення паўнамоцтваў цяперашняга прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі па Канстытуцыі 1994 года) не выключаны "усялякія дзеянні ўлад і апазіцыі". У сувязі з гэтым ЛДП звяртаецца да прэзідэнта Беларусі, прадстаўнікоў міжнародных арганізацый, пасольстваў замежных дзяржаў і, у першую чаргу, Расійскай Федэрацыі, з прапановай "неадкладна пачаць палітычны дыялог паміж прадстаўнікамі выканаўчай улады, дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання і прадстаўнікамі буйнейшых палітычных партый краіны".

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

В десятку!

## Солигорская "Калинка" пришлась по вкусу западному производителю

Сегодня все предприятия легкой промышленности Беларуси обеспокоены одной проблемой: как в нынешних экономических условиях насытить потребительский рынок страны качественными товарами и заработать валюту. На солигорском закрытом акционерном обществе "Калинка", похоже, знают решение этой непростой задачи. Директор предприятия Галина Григорьевна Калитеня на недавней встрече с журналистами рассказала, как трудится сегодня вверенный ей в подчинение коллектив.

Спроектированное в начале 80-х для пошива изделий из искусственного меха, предприятие сегодня шьет женские плащи для американской и голландской фирм, а также взрослую и детскую одежду для жителей Беларуси. В 1994 году "Калинка" открыла для себя такую форму деятельности, как кооперация с иностранными фирмами. И ноу-хау принесло объединению достаточную прибыль. У ЗАО появилась валюта, за которую можно было покупать сырье и обновлять оборудование.

Сегодня 60 процентов продукции "Калинки" — это заказы иностранных фирм. И, как отметила Галина Григорьевна, в ближайшее время предприятие от такой формы работы отказываться не будет. Посудите сами. Размещая свои заказы на белорусском предприятии, американцы и голландцы дают возможность нашим швеям зарабатывать валюту и для предприятия, и для государства. И сегодня, может быть, это важно как никогда. Ведь после августовского кризиса в России сбыт белорусской продукции на рынке этой страны не дает такой прибыли, как раньше, и единственным источником валюты для наших производителей остается в основном дальнее зарубежье.

И еще один момент. С прошлого года в Беларуси действует положение, согласно которому швейные объединения страны должны рассчитываться с отечественными текстильщиками за ткани валютой. А если шить одежду только для белорусского покупателя, то где тогда брать доллары? Ведь "зеленые" или другая конвертируемая валюта нужны и для других целей. Например, на закупку сырья, которое не производится в Беларуси, а также на переоснащение предприятия.

В том, что "Калинке" удается не только зарабатывать валюту, но и поставлять на внешний рынок качественную продукцию, убедиться несложно. Достаточно посетить фирменный магазин предприятия в Солигорске или в Минске. К слову, в белорусской столице он открылся не так давно на улице Казинца, 117.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

Стоп-кадр

Участники открытого конкурса на кубок Минска по парикмахерскому искусству "Золотой подснежник" во время конкурса "Женская вечерняя прическа".

**Фото IREX/ProMedia.**

## Растуць дамы за ваколіцай

Калі ў шэрагу месцаў толькі бездапаможна разводзяць рукамі, калі ўзнікае неабходнасць будаваць жыллё людзям, то ў саўгасе "Азярцы" Глыбоцкага раёна не адкладваюць гэту справу ў доўгую скрынку. Вырашылі тут мінулым летам узвесці сем дамоў у вёсцы Камінішчына, і ўжо два катэджы гатовыя прыняць навасёлаў. Астатнія будынкі будуць завершаны да восені. Справіла наваселле сям'я жывёлаводаў у вёсцы Мамаі, працягваецца будаўніцтва жылля і на цэнтральнай сядзібе.

У сельскай мясцовасці ў раёне для маладых сем'яў летась былі ўзведзены 17 індывідуальных дамоў, у стадыі завяршэння яшчэ 24.

**Уладзімір РАМАНЧУК.**

## Аграрыі фарміруюць саветы

Пры аднадушнай падтрымцы 28 дэпутатаў, якія з'явіліся на першую сесію новага, 23-га склікання, Пастаўскага райсавета, пасаду старшыні атрымаў былы загадчык аддзела гарадской гаспадаркі і добраўпарадкавання райвыканкама, член КПБ В.Арэхаў. Ягонае прызначэнне на другі па значнасці пост у мясцовай уладнай іерархіі планавалася загадзя, паколькі былы кіраўнік савета падаў у адстаўку ў сувязі з пенсійным узростам. Справай тэхнікі было арганізаваць сход упаўнаважаных калгаса імя Мічурына і вылучыць галоўнага гарадскога начальніка ў дэпутаты.

Гэтая гаспадарка становіцца, падобна, кузняй кіруючых кадраў: чатыры гады назад яна ўжо падаравала народу дэпутата кішэннага беларускага парламента, таксама камуніста. Зрэшты, і ў іншых месцах Віцебшчыны сяляне аказаліся актыўнейшымі за іншых і маюць найбольшае прадстаўніцтва ў мясцовых органах улады.

**Уладзімір КОРЗУН.**

Здарэнні

## Катлаван — гіблае месца

Усяго толькі некалькі соцень метраў не дайшоў да ўласнага дома ў халодны дажджлівы дзень пажылы жыхар Пастаў. Вяртаючыся з нядзельнай службы ў касцёле, зайшоў чалавек у магазін, купіў хлеба і бутэльку віна. А потым яго, мёртвага, адшукалі на дне выкапанай яшчэ з паўгода таму глыбокай канавы для цеплатрасы да новага жылога дома. Як гэта практыкуецца ў нас, абгарадзіць небяспечнае месца не паспелі або не палічылі патрэбным.

Літаральна праз некалькі дзён пасля гэтага здарэння падобная трагедыя адбылася ў суседнім Докшыцкім раёне. Невядома, чаго грузчык торфабрыкетнага завода "Віцебскі" сеў за рычагі трактара. Кіраваць ім рабочы добра не ўмеў, і неўзабаве машына з'ехала з каляіны і абрынулася ў глыбокі катлаван, перапоўнены веснавой вадой. Небарака-тапелец стаў ужо дзесятым па ліку работнікам у вобласці, які знайшоў сваю смерць на працоўным месцы.

**Уладзімір ШАЙКОЎ.**

### Эпиграмма на А.Зимовского

*Весь стиль*
*"эфирного пиита" —*
*Наследие иезуитов.*

**Олег ПЛИНДОВ.**
г.п. Белыничи



Ну і ну!

## Пакараны за збіццё кабылы

Рэдкую ў юрыдычнай практыцы справу аб адміністрацыйным правапарушэнні ў сувязі з жорсткім абыходжаннем з жывёлай разгледзела Глыбоцкая райпракуратура. Праверка скаргі мясцовай жыхаркі пацвердзіла, што сапраўды 40-гадовы падвозчык кармоў С. з калгаса "За Радзіму" сістэматычна збіваў чым пападалася пад рукі замацаванага за ім каня і не рэагаваў на заўвагі вяскоўцаў. Пакаранне ў такім выпадку на першы раз прадугледжвае штраф да 20 мінімальных зарплат, а пры падобных парушэннях на працягу года можа быць і крымінальная адказнасць.

Адміністрацыйная камісія пры Уздзенскім сельсавеце выпісала гэтаму "дрэсіроўшчыку" штраф у 6 "мінімалак", які той адразу і заплаціў. Акрамя гэтага, падвозчыка адхілілі ад работы на ферме і перавялі ў паляводства.

**Уладзімір ШЫТАЎ.**

С глазу на глаз

## Не нужно трепаться, друзья...

Всегда был убежден: считать деньги в чужом кармане — неприлично. Во-первых, потому что так воспитан. Во-вторых, потому что с первых шагов в журналистике всегда зарабатывал больше, чем многие коллеги. Именно зарабатывал, потому что писал не только в свой родной "Физкультурник Белоруссии", но и в другие республиканские, союзные, а позже и в зарубежные газеты.

И, наверное, никогда не взялся бы писать на эту тему, если бы, как говорится, не достали. То с блестящими глазами ведущий телепрограммы "Рэзананс" приводит какие-то астрономические суммы, которые оппозиция якобы решила выплачивать всем, кто поставит свои подписи в поддержку выдвижения Зенона Позьняка и Михаила Чигиря кандидатами в президенты Республики Беларусь; то его патрон — Владимир Заметалин — предлагает оппозиции передать государству "деньжища", которые она якобы получила на проведение президентской кампании; то некий безымянный журналист в самой пропрезидентской газете пишет о своих коллегах с "Радио Свобода", что они за один доллар готовы гнать блоху палкой от Минска до Праги... Причем пишет так, что сквозь строки явно выпирает — готов гнать ту же блоху и не только в Прагу, но и обратно, и даже не за один доллар, а за один цент.

И все эти измышления не подтверждаются фактами. Так, сплошной трёп. А посему давайте лучше обратимся, как принято говорить, к цифрам и фактам.

В конце апреля — начале мая мне посчастливилось побывать в Страсбурге на сессии Парламентской Ассамблеи Совета Европы. Беларусь направлялась туда тремя "колоннами": делегация так называемого Национального собрания, Верховного Совета 13-го созыва и журналисты.

Мы, шесть представителей как государственных, так и негосударственных средств массовой информации, остановились в одном отеле. Пусть не вводит в заблуждение его громкое название — "Брюссель". На самом деле это захолустная гостиница рядом с вокзалом. Цена двухместного номера — 265 французских франков, что в переводе на доллары составляет по 22 "бакса" в сутки с носа. Делегация Верховного Совета разместилась в пятидесяти метрах от нас. Отель с не менее ярким названием — "Виктория" — почти не отличался от нашего. Двойной номер здесь тянул на 300 франков, или по 25 долларов на человека.

А вот делегация Национального собрания предпочла отнюдь не шумный вокзальный, а самый фешенебельный район Страсбурга. Поселилась в отеле "Хилтон". Да, в том самом "Хилтоне", сеть отелей которого хорошо известна во всем мире богатым людям. Цена в сутки двухместного номера в страсбургском "Хилтоне" колеблется в пределах 1.000—1.300 франков. Разделите эти цифры на шесть (курс франка к доллару), и вы легко узнаете стоимость проживания. И хотя вроде бы при содействии российских представителей при Парламентской Ассамблее Совета Европы официальной делегации сделали какую-то скидку, все же суммы проживания двух делегаций оказались несопоставимыми. Особенно, если учесть, что жили они в Страсбурге не один день.

Конечно, получив командировочные, каждый вправе распоряжаться ими по своему усмотрению. Однако опыт зарубежных поездок показывает, что все мы стремимся сэкономить, где это возможно, чтобы купить сувениры, подарки, а то и просто привезти домой валюту, которую потом жизнь заставит обменять на "зайчики".

Судя по поведению делегации Национального собрания, перед ней такая проблема не стояла. Как, впрочем, и перед теми лицами, которые так любят считать деньги в чужом кармане. Ведь даже на их немалые зарплаты не купишь престижную квартиру, в которой живет один, не приобретешь новенький японский автомобиль, в котором ездит иногда (чтобы особенно не засветиться) другой. Что же касается безымянного коллеги, то, похоже, это может быть одна знакомая журналистка, которая лично мне объясняла свой переход из негосударственной прессы в государственную только одним — "там больше платят".

**Владимир ГЛОД.**

